Ніва

ГОД I № 19 БЕЛАСТОК, 8 ЛІПЕНЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

МІХАСЬ ВАСІЛЕК

## Над брацкай магілай

*Жыхарам спаленай фашыстамі вёскі Шкленск, землякам, загінуўшым у ліпені 1943 года.*

Вось тут каліcь гуляў падлеткам я,
Уранні з траў я зоры атрасаў.
На гэтым полі й маладосць мая
Уранні адцвіла, ніба раса...

Ішлі гады, суровы шлях падзей,
У родны край вярнуўся я ізноў
І стаў байцом за новы, ясны дзень
Супроць пакрытых ганьбаю паноў.

Прабіў, як гром, той верасьнёўскі час.
Загужавеў свабодай небасхіл...
Зазззялі ясна зоры Ільіча,
Дзе панаваў дагэтуль змрок магіл.

Але не доўга цешыліся мы
Жаданай воляй, шчасцем маладым,
Крывёю ўласнай давілося змыць
Фашысцкіх ордаў брудныя сляды...

Вось тут каліcь падлеткам я гуляў.
Рака ў трысці . Зялёны гоман дрэў.
Журботную я песню пачынаў
Пад салаўіны пераліўны спеў.

Пасля вось тут прымалі партызан...
Зарос травой знаёмы след сцяжын,
Зарос магілы брацкае курган,
А памяць будзе ў сэрцах вечна жыць...

Капалі моўчкі дамавіну вы
Пад звонкі гоман птушак у бары.
Яшчэ драмалі ўранні паплавы,
Як кулямёт агнём загаварыў...

Праклянце тым, хто прагне зноў вайны,
Хто прагне зноў крыві і слёз дзяцей!
Цвіці, край родны пад зарой вясны
Цвіці і вечна з намі маладзей!



Нядзельны адпачынак у ваколіцах Супрасля каля Беластока. Фото — Ю. Лей

## Шлях да свабоды і сяброўства

*А было нядаўна, а было калісьці,*
*Калі мы з зямелькі не мелі карысці,*
*На абед нам была лебяда з мякінай*
*А далей магіла пад сухой асінай...*
*(з беларускай народнай песні).*

Так спяваў беларускі народ аб сваім цяжкім жыцці ў гады царска - панскай няволі. Цяжкае і жабрацкае было каліcь яго жыццё. Цёмная і забітая была наша краіна.

Размешчаныя паміж лясамі ды прыгоркамі вёскі з курнымі хатамі непадалёк якіх відменіся пышныя панскія палацы, шырокія нівы, дзе беларускі селянін араў худзенькім конікам, ды драўлянаю сахою зрошаную потам зямлю, ды вось і ўсё.

Усё, што лепшае, ураллівыя землі, лясы і іншыя багацці краіны былі ў руках памешчыкаў ды капіталістаў. Беларускі селянін толькі і ведаў працаваць на пана з досвітку да ночы.

У шматлікіх мясцовасцях узнікалі тады сялянскія бунты, шырыліся рабочыя забастоўкі. Асабліва шматлікія сялянскія бунты ўзнікалі ў 1863 г., калі польскі народ паўстаў супроць царскай няволі. Брацкаму народу дружна тады дапамагалі беларускія сяляне, барацьба якіх была адначасова барацьбой супроць царскага самадзяржаўя, за вызваленне беларускіх працоўных мас.

Яшчэ да сённяшняга часу ёсць сярод сялян успаміны і апавяданні пра народнага героя Кастуся Каліноўскага, які згуртаваў сялян на барацьбу.

Яшчэ да сённяшняга дня жыхары Бельскага павета ўспамінаюць аб народным героі Такажэвічу, які вёў бязлітасную барацьбу з панамі ў Бельскім павеце.

Выдатным прыкладам супольнай барацьбы былі рэвалюцыйныя падзеі 1905 года ў Беластоку, калі беларускія і польскія рабочыя і сяляне сумесна змагаліся з царызмам і магнатамі.

* * *

Кастрычніцкая Рэвалюцыя вызваліла беларускі народ з нацыянальнай і сацыяльнай няволі. Цёмны і змучаны некалі рабочы і селянін цяпер будаваў сваё сацыялістычнае грамадства. Ахвярна змагаўся за ўздым народнай гаспадаркі і культуры. Небывалых поспехаў дабілася савецкае грамадства пад мудрым кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі Савецкага Саюза.

Заходняя частка Беларусі ўсё яшчэ стагнала ў ярме панскай няволі. Капіталістычны ўрад санацыйнай Польшчы лічыў гэтыя землі сваёй каланіяй, таму і жыццё працоўных было амаль каланіяльнае.

Калі спытаць чаго найбольш было ў Заходняй Беларусі, дык адказ на гэтае пытанне будзе такі: — панскіх маёнткаў, жабракоў ды турмаў.

У маёнтках горбілі свае плечы парабкі, якія працавалі на Радзівілаў, Любамірскіх ды іншых магнатаў, па дарогах ад граніцы да граніцы вандравалі жабракі, а ў турмах пакутавалі ўсе перадавыя людзі народа — польскія і беларускія камуністы.

Але як не стараліся панскія прыспешнікі задушыць барацьбу заняволенага народа і чаго яны толькі не рабілі, барацьба ўсё мацнела. Кіраўнікамі ў гэтай барацьбе былі польскія і беларускія камуністы. Пад кіраўніцтвам КПП і КПЗБ польскія і беларускія рабочыя Беластока, Гродна, рабочыя Гарадка і Гайнаўкі сумесна ішлі ў першамайскіх паходах, сумесна ўдзельнічалі ў шматлікіх забастоўках, разам пераносілі велізарныя цярпенні ў Картуз Бярозе і у іншых турмах краіны. Але барацьба працоўных не была дарэмнай. Вынікам змагання было аб'яднанне Беларусі.

Вераломны напад гітлераўскіх захопнікаў на савецкую дзяржаву паставіў беларускую краіну перад вялікай небяспекай. На кліч Камуністычнай Партыі Савецкага Саюза ўвесь беларускі народ паўстаў на свяшчэнную барацьбу за свабоду і незалежнасць сваёй краіны.

Народ не мог змірыцца з акупацыяй. Ужо ў 1942 годзе, ва ўсходняй частцы Беласточчыны пачаў разгортвацца масавы партызанскі рух пад камандаваннем Міхася Сібірака.

У лясах Белавежскай пушчы, у раёне Міхалова і Гарадка пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, удачліва дзейнічала партызанскае злучэнне генерал - маёра Капусты. Жыхары Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў добра памятаюць дзейнасць атрадаў імя Кутузава, імя Кастуся Каліноўскага, імя Матросава, камандзіраў Кульбіцкага, Карпюка і іншых герояў Айчыннай вайны.

Народ выявіў у гэты час шмат мужнасці, патрыятызму і таленту.

* * *

Нямалыя заслугі ў справе ўмацавання народнай улады ў Польшчы мае беларускае насельніцтва Беласточчыны. Беларускае насельніцтва зразумела, што толькі народная ўлада здольна забяспечыць яму вольнае ад нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту жыццё.

Беларускае насельніцтва актыўна ўдзельнічала ў ліквідацыі банд, рэакцыйнага падполля, многія беларусы запоўнілі рады народнай міліцыі, ОРМО, згуртаваліся ў радах партыі і іншых дэмакратычных арганізацыях.

Свабодна развіваецца нацыянальная беларуская культура і асвета. Моладзь цяпер можа вучыцца на сваёй роднай мове і развіваць свае здольнасці ў шматлікіх гуртках мастацкай самадзейнасці. Ва ўсіх сваіх дасягненнях беларускае насельніцтва абавязана партыі і народнай уладзе вялікую ўдзячнасць.

Таму ўсім беларусам, якія жывуць на тэрыторыі Польшчы, неабходна яшчэ мацней згуртавацца вакол партыі. Адсюль неадкладнай задачай усіх беларусаў з'яўляецца павялічыць намаганні дзеля хутчэйшага пабудавання сацыялістычнай будучыні нашай краіны, дзеля ўмацавання нашай сацыялістычнай дзяржавы, умацавання дружбы паміж польскім народам і народамі Савецкага Саюза.

М. НАСОВІЧ

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# Аб гэтым трэба падумаць

## (гутарка з вучнямі)

Мы нават і не агледзеліся, як ужо закончыўся школьны год. Адны вучні перайшлі ў наступны клас, другія, скончыўшы сямігодку — пакінулі ўжо школу. І з гэтымі вось вучнямі я хацеў-бы сёння пагаварыць.

Мінулі беззваротна тыя часы, калі на сямігодцы спынялася ўся навука; не будзем ужо пра іх нават успамінаць. У нашых умовах здольнаму, працавітаму і ахвотнаму вучню адкрыта дарога ва ўсе школы, у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але якую школу выбраць? Гэта-ж раўняецца выбару прафесіі. Менавіта, над гэтым першым і найважнейшым крокам у жыцці вельмі моцна трэба падумаць.

Усе прафесіі, таксама як і навучальныя прадметы ў школе, з'яўляюцца важнымі. Аднак некаторыя з Вас лепш любяць гісторыю, беларускую мову, чым напрыклад, геаграфію, іншым зноў матэматыка найбольш падабаецца. Таксама ёсць і з прафесіямі.

Як ведаем, вельмі цяжка выконваць такую працу, якая не падабаецца. Працуем тады „з мусу", без радаснай, творчай думкі, бо як кажуць, „трэба жыць".

Цяжкае і беднае маё жыццё складалася так, што вучобу быў вымушаны здабываць сам, працуючы там, дзе толькі знайшлася якая-небудзь праца. Працаваў лесарубам, змяняў рэйкі на чыгунцы, біў каменне на шасе, грузіў вагоны пяском і каменнем, працаваў у пякарні, млыне, фанернай фабрыцы, потым шафёрам, радыстам - лётчыкам, у час акупацыі рамантаваў усялякія машыны і шыў шапкі.

Праўда, што многа?

Аднак трэба Вам прызнаць, што найбольш цікавага, захапляючага і... клапатлівага было ў маёй працы, калі я быў... настаўнікам. І да гэтай прафесіі я хацеў-бы Вас намовіць.

Уявіце сабе, што глядзіць на Вас каля пяцідзесяці пар вачэй, маладых, свавольных, задумлівых, і цікавых, якія часта хацелі-б на адных жартах правесці ўрок. З такой разгульнай грамады трэба зрабіць найбольш дысцыпліна ваны калектыў, трэба іх так зацікавіць вучобай, каб калісь былі інжынерамі, дактарамі, навуковымі работнікамі, прафесарамі. Усе яны, пакуль што, яшчэ не ведаюць, як трымаць аловак. Будучы прафесар пачынае на ўроку есці булку, а інжынер... калупае ў носе. Праз некалькі месяцаў яны ўжо чытаюць, пішуць, лічаць, малююць.

Яны адкрываюць перад Вамі свае найбольшыя дзіцячыя таямніцы.

Яны Вам вераць і Вы з'яўляецеся найбольшым аўтарытэтам на ўсё іх жыццё.

Ад Вас залежыць, якім будзе гэты чалавек. Яны засвойваюць усялякія Вашыя звычкі, любяць тыя прадметы і тэмы, якія і... Вы любіце.

Пачаткова я быў некваліфікаваным настаўнікам, я ўсё меў перад вачыма свайго першага настаўніка і рабіў так, як ён. Потым часта ў жыцці сустракаецца з Вамі якісьці паважаны чалавек, прыязна вітаецца з Вамі, пытаецца пра Вашае здароў'е, а Вы яго не ведаеце.

Аказваецца, што гэты прыгожы студэнт, ці паважаны доктар — гэта той Міхась з першага класа, якому Вы з трудам даказвалі на запалках, што два і два — гэта чатыры.

Цяпер, калі ваенная кантузія пазбавіла мяне магчымасці быць настаўнікам, усё роўна я пераажываю канец кожнага школьнага года. Цікавіць мяне лёс і жыццё кожнага майго вучня. Я не меў выпадку, каб без сардэчнай усмешкі, або прывітання, мінуў мяне мой былы вучань ці вучаніца.

Ці-ж не прыгожая гэта, хоць трудная, праца?

Ад шчырага сэрца тады радзіў-бы Вам быць настаўнікамі.

І. ВЕРАС



*У ліпені месяцы на экранах польскіх кінофільмаў „Матрос Чыжык", каляровы кінофільм вытворчасці СССР. Рэжысёр В. Браўна. На здымку: Ведамы ўсюды артыст М. Кузнецоў у галоўнай ролі.* ЦАФ — СВФ



*Хараство Беласточчыны. Возера Нэцка ля Аўгустова.*

МІКОЛА СІСКЕВІЧ

## СЛЯДЫ

На пясчаным беразе ракі
Ранкам веснім, ціхім, маладым
З шумам апусціліся шпакі
І свае пакінулі сляды.

Неўзабаве дождж буйны пайшоў,
За каўнер струменем мне пацёк.
І на месце зробленых слядоў
Забурліў маленькі ручаёк.

...Я, сябры, ужо даўно сакрэт
У грудзях юнацкіх затаіў:
Хочацца такі пакінуць след,
Каб яго ніякі дождж не змыў.

ВІКТАР ШЫМУК

## Цябе я не ведаў...

Чаго не было, таго не было,
Табе не дарыў я ні бэзу, ні ружаў.
Прыехаў калісьці я ў ваша сяло,
Як падала лісце ў цёмныя лужы.

Цябе я не ведаў, цябе я не знаў —
Закінула ў край гэты камандзіроўка.
А зараз — ідзе ўжо другая вясна,
Як ты стала лепшай маёю сяброўкай.

Мы разам з табою ідзем у жыццё,
Мы дзелім і радасць, мы дзелім і гора.
...Жывуць самым светлым, святым пачуццём
Не ўсе, што пры стрэчах букецікі дораць.

# Драгічын — даўняя сталіца Русі

З усіх гарадоў і сёлаў Беласточчыны, Драгічын мае самую цікавую і багатую гістарычную мінуўшчыну. Аднак мала хто ведае цяпер, што гэтае малое, заняпалае мястэчка размешчанае ў прыгожай ваколіцы над Бугам на працягу амаль 150 гадоў з'яўлялася сталіцай падляскага ваяводства. У палавіне XIII стагоддзя, Драгічын быў сведкам каранацыі кіеўскага і галіцкага князя Данілы Рамановіча на караля ўсяе Русі. У той час Драгічын ужо быў сталіцай гэтай вялікай дзяржавы, граніцы якой ахопнівалі землі ад Кіева аж па Карпаты і ад Днястра аж па Прыпяць і Райгруд.

Успомнім тыя даўнія дні славы і росквіту Драгічына.

Палавіна XIII стагоддзя. Русь і Польшча былі зусім вынішчаны пасля апошняга татарскага нашэсця. На месцах былых сёлаў і гарадоў дымелі толькі папялішчы. Татары пад камандаваннем Байдара падыйшлі аж пад Легніцу, а частка іх пад камандаваннем Андру-хана дайшла на Падлясе знішчыўшы па дарозе Драгічын, Бельск, Бранск, Сураж, Візну затым спустошыўшы значныя абшары поўднёвых мазурскіх земляў, пайшлі каля Быдгашчы, Віслы, і ў раёне Вроцлава аб'едналіся з галоўнымі сіламі татарскіх войскаў.

З раздробленасці і бязладдзя карыстаюць яцьвягскія і літоўскія кунігасы. Ужо на наступны год пасля татарскага нашэсця, у 1241 г. Эрдзівіл, пляменнік літоўскага князя Мендога, заняў усю сучасную тэрыторыю Падлясся, а натоўпы яцьвягаў пайшлі далёка на поўдзень Польшчы і ў Русь.

Русь — раздробленая на рад малых княстваў, якія знаходзіліся ў залежнасці ад татарскага хана — не мае сілы супраціўляцца яцьвягскім нападам.

Хаця ў 1248 годзе ўладзімірскі князь Васіль Расціславец у ваколіцах Драгічына дагнаў і разбіў значныя яцьвягскія сілы, але не меў толькі войска, каб мог ісці далей на поўнач, у неспазнаныя яцьвягскія пушчы. Напады яцьвягаў працягваліся далей, што прымусіла рускіх князёў да барацьбы з захопнікамі. Гэтая пастанова была зроблена на нарадзе рускіх князёў, якая адбылася ў Драгічыне. Тут і пачалася канцэнтрацыя сіл, і падрыхтоўка да вайны. Слаўны Даніла Рамановіч — князь кіеўскі, прыняў камандаванне над аб'еднанымі атрадамі.

У 1251 годзе рушыў з Драгічына за Нарву, Супрасль, у дрымучыя яцьвягскія пушчы. Хаця Даніла з братам Мсціславам — князем луцкім і пінскім, ля Ясёлды быў разбіты аб'еднанымі войскамі Літвы, Жмудзі, і Яцьвягіі, аднак яго паходы прымусілі яцьвягаў на доўгія гады спыніць напады.

У пазнейшыя гады атрады Данілы Рамановіча зайшлі далёка за Райгруд і вярнуліся адтуль пераможцамі, пераходзячы ў ваколіцы Візны раку Нарва. Перамогі над Яцьвягіяй умацавалі ўплыў і значэнне Данілы не толькі на Русі але і далёка па-за яе межамі.

Увайшоўшы ў саюз з Мендогам, — князем Літвы, Даніла марыць цяпер аб аб'яднанні ўсёй Русі пад сваёй уладай і вызваленні яе з-пад татарскага ўладарніцтва. Ведае аднак, што сам нават у саюзе з Літвай, не пераможа татарскага хана і таму шукае саюза на Захадзе, у рымскага папы. Яго імкненні пачынаюць здзяйсняцца. Рымскі папа наўзамен за абяцанне перайсці ў каталіцызм, згадзіўся не толькі прызнаць Данілу каралём усяе Русі, але аказаць таксама дапамогу ў барацьбе з татарамі.

Каранацыя Данілы на караля Русі адбылася ў гадах 1251—1255. На каранацыйную ўрачыстасць з'ехаліся не толькі ўсе рускія князі, але таксама шматлікія прадстаўнікі замежных дзяржаў. Карону і іншыя каралеўскія рэгаліі, прывёз Данілу з Рыма, легат папы, масенскі абат Апісо, якога ў час урачыстасцей суправаджалі епіскап Прандота — найвялікшы працаўнік праекта каранацыі Данілы, а таксама рад іншых польскіх епіскапаў. Каранацыйныя ўрачыстасці, якія цалкам збянтэжылі татарскага хана, працягваліся шмат дзён. Адбываліся баляванні, балі, паляванні і рыцарскія гонкі. Гэтыя дні без сумнення з'яўляліся днямі найвялікшай славы новаадбудаванага пасля татарскага нашэсця, Драгічына.

Новакаранаваны кароль Русі выклікаў захапленне не толькі ў рускіх, але і ў замежных гасцей незвычайнай пышнасцю і гасціннасцю.

Развіццё Драгічына і іншых навакольных гарадоў, якія знаходзіліся пад уладай новакаранаванага караля, прадказвалася як найлепш. Аднак не працягвалася гэта доўга. Сілы Данілы Рамановіча і яго саюзнікаў аказаліся за малыя каб супрацьставіцца магутнаму татарскаму хану.

Разбіты татарамі, страціўшы надзею атрымаць дапамогу ад рымскага папы Інацэнтага IV, які быў больш зацікаўлены барацьбой івельфаў з гібелінамі чым далёкім каралём Русі, які прыняў каталіцкую веру, Даніла пакінуў сваю краіну і ўцёк заграніцу. Пераможныя атрады татараў зноў нішчылі ды палілі ўсю Русь, а ў 1260 годзе быў знішчан і Драгічын.

Пераможаныя татарамі брат і сыны Данілы, па загаду хана вымушаны былі разбураць і паліць свае крэпасці (м. інш. і Львоў). Ні адкуль неатрымаўшы ніякай дапамогі, Даніла Рамановіч быў прымушаны прызнаць татарскае панаванне і вярнуўшыся на Русь неўзабаве памёр.

Перад смерцю, у сваім завяшчанні Даніла Рамановіч перадаў Драгічын ва ўладанне свайго сына, Льва.

Так закончыўся кароткі перыяд панавання адзінага ў гісторыі, караля Русі Данілы Рамановіча.

ЯКУБ АНТАНЮК.

## ГУТАРКІ НА ПРЫРОДАЗНАЎЧА-НАВУКОВЫЯ ТЭМЫ

# ЯК УЗНІК ЧАЛАВЕК

Адкуль паявіліся на Зямлі першыя людзі? Аб гэтым задумваліся яшчэ нашы далёкія продкі. Але, не ведаючы законаў прыроды, яны не маглі знайсці правільны адказ. Людзі верылі ў тое, што ў свеце існуюць багі, якія кіруюць жыццём прыроды, што яны стварылі і чалавека.

У розных народаў існавалі розныя паданні аб стварэнні чалавека. Так, напрыклад, у старажытных народаў, якія жылі на берагах Міжземнага мора, дзе была развіта ганчарная вытворчасць, была створана легенда аб тым, што першыя людзі былі вылеплены багамі з гліны і затым ажыўлены Падобная казка выкладзена ў біблії: у ёй расказваецца аб тым, што бог вылепіў першага чалавека — Адама — «з праха зямнога», а потым «удзьмуў у яго душу жывую».

Навука ўжо даўно адвергла гэтыя выдумкі.

У мінулым стагоддзі вялікі англійскі вучоны Чарльз Дарвін шматлікімі фактамі даказаў, што ўвесь велізарны featраснастайны свет жывёл і раслін, які мы бачым навокал, развіўся паступова на працягу многіх мільёнаў год з простых істот.

Быў час, калі на Зямлі не існавала ніякага жыцця. Потым, у выніку натуральнага развіцця прыроды, узніклі першыя прасцейшыя жывыя істоты — аднаклетачныя арганізмы. З іх паступова праз мільёны год развіліся шматклетачныя жывёлы і раслінны і ўзніклі жывыя істоты больш складанай будовы — рыбы, земнаводныя жывёлы, птушкі. Пазней за іншых на Зямлі паявіліся млекакормячыя жывёлы, а сярод іх выдзеліліся малпы.

Падобна іншым істотам, чалавек таксама прайшоў вельмі доўгі шлях развіцця. Дарвін прыйшоў да вываду, што далёкімі продкамі чалавека былі чалавекападобныя малпы, якія жылі ў трапічных лясах Еўропы і Азіі некалькі мільёнаў год назад. Цяпер гэтыя малпы вымерлі. Ад іх-жа пайшлі сучасныя чалавекападобныя малпы — гарыла, шымпанзе, арангутанг. Гэтыя малпы маюць вялікае падабенства з чалавекам: іх цела па размерах блізка да чалавечага, на канечнасцях, як і ў чалавека, ёсць па пяць пальцаў з плоскімі ногцямі, у іх няма хваста, састаў крыві блізкі да састава крыві чалавека. Усё гэта гаворыць аб тым, што чалавек і сучасныя чалавекападобныя малпы маюць агульных продкаў.

Якім-жа чынам старажытная чалавекападобная малпа ператварылася ў чалавека? Пераканаўчы адказ на гэтае пытанне быў дадзен Энгельсам у яго кнізе «Роля працы ў працэсе ператварэння малпы ў чалавека». Ён паказаў, што галоўнай, рашаючай прычынай гэтага ператварэння з'явілася праца.

Некалькі мільёнаў год назад пад уплывам змяніўшагася клімату трапічныя лясы, у якіх жылі нашы продкі, сталі радзець, паявіліся вялікія прасторы, пазбаўленыя дрэў.

Гэта, як відаць, прымусіла чалавекападобных малп спусціцца на зямлю. Не ўсе малпы здолелі прыстасавацца да новых умоў жыцця, але тыя з іх, якія вызначыліся найбольшай прыстасаванасцю і кемлівасцю, паступова асвоілі зямлю і прывучыліся хадзіць на двух нагах, не абапіраючыся рукамі аб зямлю. Гэтым, указвае Энгельс, быў зроблен рашаючы крок на шляху ператварэння малпы ў чалавека. Цяпер з дапамогай верхніх канечнасцей малпы маглі схапіць палку, камень і выкарыстаць іх як прыладу абароны або як сродак для здабывання ежы. Спачатку такое ўжыванне каменя і палкі было выпадковым, але з часам нашы далёкія продкі сталі карыстацца гэтымі сродкамі ўжо свядома. Затым яны пачынаюць выпрацоўваць першыя штучныя прылады — завастраць камені, надаючы ім патрэбную форму. Так у статку чалавекападобных малп зарадзілася новая з'ява, невядомая свету жывёл, — праца.

Праца, піша Энгельс, гэта «...першая асноўная ўмова ўсяго чалавечага жыцця, і прытым у такой ступені, што мы ў вядомым сэнсе павінны сказаць: праца стварыла самога чалавека».

Пад уздзеяннем працы верхняя канечнасць малпы ператварылася ў руку чалавека, здольную выконваць разнастайныя працоўныя аперацыі. Ніжнія канечнасці сталі толькі органам апоры, гэта значыць нагамі чалавека. Праца не толькі змяніла аблічча нашага продка. Яна прывяла і да ўзнікнення членараздзельнай мовы. Займаючыся сумеснай працай, паляваннем, першабытныя людзі папярэджвалі гукамі аб небяспецы, падбадзёрвалі адзін другога. Да гукаў далучаліся рухі галавы, плячэй, рук. Развіццё сумеснай працоўнай дзейнасці людзей вяло да далейшага ўдасканальвання мовы: павялічвалася колькасць гукаў, і мова набывала ўсё больш членараздзельны характар.

Праца садзейнічала і ўзнікненню чалавечай свядомасці.

Апісаная карціна паходжання чалавека пацьвярджаецца шматлікімі знаходкамі ў пластах зямлі. У 1891 годзе галандскі вучоны Дзюбуа, вывучаючы старажытныя пласты зямной кары на востраве Ява, выявіў на глыбіні 15 метраў чарапную крышку, сцегнавую косць і зуб нейкай невядомай істоты. Пасля вывучэння знаходкі вучоныя прыйшлі да вываду, што перад імі астанкі малпачалавека, які жыў прыкладна 700 — 900 тысяч год назад.

Затым у Поўночным Кітаі і ў іншых краінах вучонымі былі знойдзены астанкі іншых падобных істот, ужо ведаўшых агонь. Разам з касцямі вучоныя выявілі попел ад кастроў, абвугленыя косці жывёл, а таксама грубыя, але апрацаваныя рукой чалавека каменныя прылады

Прыкладна 200 — 300 тысяч год назад на Зямлі жылі ўжо старажытныя людзі — патомкі малпалюдзей.

Астанкі іх былі знойдзены ў многіх краінах — у Совецкім Саюзе, у Германі, у Палесціне і ў іншых месцах. Іх знешні выгляд моцна адрозніваўся ад выгляду сучасных людзей. Яны былі невялікага росту, з кароткай шыяй, ногі ў іх пастаянна былі сагнуты ў каленях, корпус нахілен уперад. Гэтыя людзі мелі нізкі і вельмі пакаты лоб з навіслымі надброўямі, падбародачны выступ у іх адсутнічаў. Яны яшчэ не ведалі ні лука, ні стрэл, але ўмелі рабіць з каменя наканечнікі для коп'яў, нажы, грубыя скрабкі для разбірання туш.

Толькі каля 80—100 тысяч год назад на Зямлі паявіліся людзі, якія ўжо амаль не адрозніваюцца ад сучасных. Аб гэтым пераканаўча гавораць знойдзеныя ў розных месцах шкілеты людзей таго часу. Чалавек ужо ўмеў вырабляць даволі складаныя прылады з косці і каменя, з поспехам паляваў на мамантаў і іншых вялікіх жывёл. Гэта былі выкапнёвыя людзі сучаснага тыпу.

Так знаходкі ў пластах Зямлі паказваюць нам бясспрэчную карціну паходжання і развіцця чалавека.



*Сучасныя абсталяванні з ГДР для польскай спажывецкай прамысловасці. Завод кандытарскай прамысловасці „Гапляна" у Познані прадукуе шакалады, шакаладную галантэрыю, цукеркі і кандытарскае піражнае. Рэгулярнае выкананне плана дасягнута дзякуючы ўвядзенню ў прадукцыю сучасных машын і абсталяванняў дастаўленых нам з ГДР.*

*На здымку: Фрагмент сучаснай пякарні.*



*Фабрыка грузавікоў ім. Балеслава Берута ў Любліне.*
*На здымку: фрагмент мантажнай тасьмы самаходаў „Люблін".*
*ЦАФ — фота Пянькоўскі.*

## Ці ведаеце, што...

...Кукурузу ўжо садзілі 3 тысячы год таму назад індыйскія плямёны — Інаў, якія пражывалі на тэрыторыі Поўднёвай Амерыкі, дзе цяпер знаходзіцца дзяржава Перу.

...Першым белым чалавекам, які ўбачыў дзіўную расліну з вялікімі залаціста-жоўтымі качанамі, быў Хрыштоў Калумб. Было гэта ў 1492 годзе. Кукуруза па-індыйску называлася „майс".

...Першы пляцак з кукурузы елі ў нас у XVIII стагоддзі. Прыехала яна сюды з Румыніі. Па-румынску яе называлі „цуцуруза" і адсюль называецца кукурузай.

...У сусветным земляробстве другое месца па пасевах пшаніцы займае іменна кукуруза.

...Кукуруза з'яўляецца самай каштоўнай кармавой раслінай.

С.

# Ф. М. Дастаеўскі

«У рускай літаратуры яшчэ не было прыкладу так хутка зробленай славы, як слава п. Дастаеўскага», — пісаў В. Г. Белінскі, ацэньваючы першы твор Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага — раман «Бедныя людзі». Раман адразу-ж прынёс аўтару шырокую вядомасць, зрабіў яго імя папулярным.

Глыбокае спачуванне да простых людзей, занядбаных і прыдушаных сацыяльным ладам жыцця, бяспраўных і прыніжаных — гэтым захапляў твор маладога пісьменніка, гэта адкрывала яму дарогу да сэрца чытачоў. Сваім раманам Дастаеўскі абуджаў нянавісць да крыўдзіцеляў беднага чалавека, да рэчаіснасці, якая нараджала беднасць і пакуты працоўнага люду. Асяроддзе, якое калечыць і прыгнятае простых людзей, павінна быць знішчана — да такога вываду прыходзіў чытач твора.

У 40-я гады Ф. М. Дастаеўскі захапляўся ідэямі ўтапічнага сацыялізма. Малады пісьменнік знаходзіўся пад уплывам рэвалюцыйных поглядаў Белінскага і яго аднадумцаў. «Я горача прыняў тады ўсе вучэнні яго», — пісаў Дастаеўскі пра В. Г. Белінскага. Гэта прывяло к таму, што Ф. М. Дастаеўскі ўступіў у рэвалюцыйны гурток Петрашэўскага. У 1849 годзе гурток быў разгромлены царскім урадам. Дастаеўскага арыштавалі і прыгаварылі да пакарання смерцю. Смяротны прыгавор быў заменены катаргай і ссылкай. Толькі ў 1860 годзе пісьменнік вярнуўся ў Пецербург.

Разгром гуртка петрашэўцаў, катарга і ссылка вельмі цяжка адбілася на Ф. М. Дастаеўскім. Ён страціў веру ў рэвалюцыю і не бачыў выхаду з гаротнага становішча народа. Яму здалося, што самаўладства — вечнае, што няма сілы, якая здолела-б яго перамагчы.

Калі ў рамане «Бедныя людзі» пісьменнік верыў у чалавека, якога лічыў ад прыроды добрым, разумным, высакародным, дык гэтая вера цяпер знікла.

Ужо ў рамане «Двайнік» мы бачым недаверлівы погляд Дастаеўскага на чалавека. Галоўны герой твора Галядкін жыве для сябе, жыве сваімі пакутамі і сваімі радасцямі. Яго мала абыходзіць чужое гора, чужыя няшчасці, — абы яму было добра, абы ён быў шчаслівы. Галядкіну хочацца выбіцца ў людзі. Ён бачыць, што зрабіць гэта можна толькі з дапамогай ашуканства, подласці, ганебных учынкаў: такое жыццё! У «Двайніку» закладзена думка, якая ў далейшым будзе складаць сутнасць твораў Дастаеўскага, сутнасць яго рэакцыйнай тэорыі: усё цёмнае, агіднае, усялякае зло — неад'емныя якасці натуры чалавека.

Пісьменнік спрабуе давесці, што чалавек па прыродзе сваёй — істота жорсткая, злосная, подлая, што ўсе людзі імкнуцца адзін аднаго мучыць, прыніжаць. Утаймаваць чалавека можна толькі з дапамогай рэлігіі, пакорлівасці. Толькі пакуты і мучэнні яго «ачысцяць».

«Ён, — гаварыў пра Дастаеўскага А. М. Горкі, — адчувае сябе як-бы вяшчальнікам нейкіх цёмных і варожых чалавеку сіл, ён заўсёды ўказвае на разбуральныя імкненні чалавека, які шукае галоўным чынам асабістай свабоды, патрабуе, каб за ім было прызнана права ўсім карыстацца, усім цешыцца не падпарадкоўваючыся нікому».

Рэакцыйныя погляды Ф. М. Дастаеўскага, яго рэакцыйная тэорыя з асаблівай сілай выявіліся ў такіх творах, як аповесць «Запіскі з падполля», раманы «Бесы», «Браты Карамазавы».

Творчасці Дастаеўскага ўласцівы сур'ёзныя супярэчнасці з аднаго боку, пісьменнік спачуваў прыгнечаным і абяздоленым, прыдушаным самаўладствам, з другога боку — адмаўляў рэвалюцыйны шлях барацьбы з ладам прыгнятальнікаў; з аднаго боку — крытыка сацыяльных язваў жыцця, крытыка капіталістычнай рэчаіснасці, якая даводзіла чалавека да галечы, з другога — пропаведзь паслухмянасці, пакорлівасці, рэлігійнай цярпімасці.

Нам дарагі Дастаеўскі — пясняр уніжаных і зняважаных, пісьменнік, які ў змрочную пару царскага самаўладства стварыў суровыя ў сваёй праўдзівасці высокамастацкія карціны пакут простых людзей, пісьменнік, магутны талент якога бічаваў буржуазнае грамадства.

Паказваючы няшчасны лёс беднага абяздоленага чалавека, пісьменнік хацеў выклікаць да яго спагаду і жаласлівасць, а выклікаў гнеў і нянавісць — гнеў і нянавісць да эксплуатататараў, да сацыяльнага ўкладу жыцця, пры якім адны жывуць у шчасці і раскошы, а другія гібеюць у заўсёдных нястачах. Дастаеўскі, такім чынам аб'ектыўна выступаў — часта сам таго не думаючы — як крытык існуючай рэчаіснасці, як суддзя несправядлівасцей у тагачасным грамадстве.

Вельмі характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца раман «Уніжаныя і зняважаныя», надрукаваны ў 1861 годзе. Гэта — адзін з лепшых твораў пісьменніка, твор, які, паводле слоў Пыпіна, быў апошнім водгаласам ідэі Белінскага ў Дастаеўскага.

У рамане «Уніжаныя і зняважаныя» з вялікай мастацкай сілай створаны рад вобразаў людзей, знявечаных буржуазным ладам, змучаных жыццём. Сярод іх — малады пісьменнік Іван Пятровіч, сірата Нэлі, Наташа, маці і дзед Нэлі. Грамадства калечыла іх лёс, калечыла іх душы. Адны пакуты, няўдачы, расчараванні і галечы ведалі яны ў жыцці. Рэчаіснасць была для іх жорсткая і няўмольная.

Носьбітам зла, прычынай бядоты чалавека працы паўстае ў рамане князь Валкоўскі. У яго адзін бог, адна праўда — грошы. Грошы кіруюць усімі яго ўчынкамі, робяць яго жорсткім, нахабным, бязлітасным.

Дастаеўскі не дае шчаслівых развязак, не прымірае раскошу і беднасць і не робіць пакутнікаў шчаслiўцамі, — яго «ўніжаныя і зняважаныя» так і застаюцца «ўніжанымі і зняважанымі». Як выйсці з такога становішча, — героі пісьменніка не ведаюць. Барацьбу з сацыяльным злом Дастаеўскі адмаўляе і ў гэтым творы. І тут мастак прапаведуе паслухмянасць, пакору, узвышаныя пакуты.

Ф. М. Дастаеўскі — глыбокі знаўца душы чалавека, буйнейшы ў сусветнай літаратуры майстар пранікнення ў чалавечую псіхалогію.

З. Л.

